




— У вас ёсць вырабы мясцовай прамысловасці?

— А вам з якой мясцовасці? Ёсць з Урала, з Сібіры, з Украіны...

Мал. М. Жытніцкага



— Вось, сэр, апошняя фаза аўтаматызацыі на нашым заводзе.

# ЗАМЕЖНЫ ГУМАР

(«Ойленшпігель», «Свят сацыялізму», «Вожык», «Урзіка», «Лудаш Маці», «Перац»).



— Тры разы вы да мяне прыходзілі і кожны раз здавалі на адзінку.

— Тады пастаўце мне тройку і больш хадзіць не стану.

Мал. Швацова



Без подпісу.



— Прыемна паглядзець, калі кліент і прадавец ветліва да сябе адносяцца.

— Дык гэты ж кліент — жонка дырэктара магазіна.

Мал. Е. Галкіна



— Што гэта, ваша жонка заўтра вяртаецца?...



— Чаго ўставіліся?... Я ж сам вяртаюся!



— А ну, не падглядай, тут табе не школа.

# ТРЫМАЙЦЕ ДЗЯДЗЬКУ ЛЯВОНА

Нядаўна я вырашыў наведаць паважанага дзядзьку Лявона. Уявіце сабе, што нялёгкае гэта было рашэнне. Чаму? Каб вы былі на маім месцы і вы б баяліся адказаць, бо мо' акурат ён прачытае аб гэтым. А тады, вядома, больш не паказвайся. Але рыскану хоць некальні слоў сказаць. Добры ён, то добры — наш дзядзька Лявон. Часта піша «мае даражэнькія, мілыя» і г. д., але... ужо надта зайздросны. Мой сябра, гэты найлепшы (ведаеце яго хіба — сусед мой!..) раіў мне лепш не ісці да Дзядзькі, бо, калі жонка была дома, то Дзядзька размаўляў з сябрам надта па-вайсковаму і коратка.

Трапам я даведаўся, што жонка дзядзькі Лявона паехала ПКС-ам па апенькі пад самую Супрасль. Ну, — думаю сабе, — цяпер то я з ім пагутару. Ага... дай Божа памяць, задоўга да таго я навучыўся «Лявоніху» (спяваць і танцаваць, зразумела). Думаў развесяліць гэтым Дзядзьку, калі будзе жонка дома. Але «Лявоніха», на якую шмат здароўя я патраціў, не прыдалася. Найбольш рэпетыцыі танца надаелі. Не так, зрэшты, мне як маёй маці. У час адной, між іншым, збанок са смятанай упаў з паліцы.

Заходжу да Дзядзькі, а ён сядзіць, і, задзёршы галаву, у акно глядзіць. На «добры дзень» нават не адказвае. У кожнага свае клопаты — думаю.

— Аб чым задумаліся? — звяртаюся да Дзядзькі.

— На ўсход месяца чакаю — адказвае ён. — Не магу наглядзецца на гэты «бліскучы глобус».

— Ці не вырашылі па на Твардоўскага наведаць? — пытаю.

— Не наведаць, а зусім перабрацца — адказаў Дзядзька.

— На месяцы ўсе справы блішчаць...

Можа і не зусім будзе бліскучым жыццё Дзядзькі Лявона на месяцы. Там жа ўжо даўным-даўно за зямельны падзел брат брата на вілы надзеў і трымае да сёння, — падумаў я.

Візіт мой скончыўся ранавата бо жонка Дзядзькі з крыкам вярнулася з-пад Супраслі, і ён пабег яе сустракаць. Не ведаю, ці пад'еў тады Дзядзька апенек. Калі прыспешаным крокам выходзіў я з панадворка, ён падымаў жонку, кошык ляжаў з боку а апенькі акружалі іх абодвух.

*

Зачыце, дзядзька Лявон не прызнаўся нам у «Ніве» сваіх планах. Каб ён застаўся з намі на зямлі, трэба, па-мойму, рабіць так, каб не было чаго яму крытыкаваць бо ён такой працы не любіць. А мо' пасварыўся з-за апенек з жонкай? Тады сам, зразумела, не паедзе. Вось і добра было б. Пабачым.

М. КУРАШ